№ 172 (1735)

Пятніца, 12 верасня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +16...+18, уначы — +6...+8; у Брэсце ўдзень — +16...+18, уначы — +7...+9; у Гродне ўдзень — +16...+18, уначы — +7...+9; у Віцебску ўдзень — +15...+17, уначы — +8...+10; у Гомелі ўдзень — +16...+18, уначы — +7...+9; у Магілёве ўдзень — +16...+18, уначы — +7...+9.

На ўсёй тэрыторыі краіны захаваецца воблачнае, без ападкаў надвор'е.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Лёс Уладзіміра Бадрова

*Учора прызначаны выконваючы абавязкі генеральнага дырэктара ААТ "Крыніца". Ім стаў былы першы намеснік гендырэктара прадпрыемства Аляксандр Якіменка.*

Нагадаем, што экс-генеральны дырэктар "Крыніцы" Уладзімір Бадроў днямі быў звольнены з пасады назіральным саветам прадпрыемства. Афіцыйная прычына яго звальнення невядомая.

Існуе некалькі версій наконт таго, якім будзе далейшы лёс былога кіраўніка "Крыніцы".

Некаторыя мяркуюць, што звальненне Уладзіміра Бадрова стала своеасаблівай помстай за ягоную ідэю ўдзелу "Балтыкі" ў мадэрнізацыі мінскага бровара. Маўляў, зараз Бадрова могуць зрабіць *"ахвярным казлом"* і абвінаваціць ва ўсіх даўгах "Крыніцы".

*Што чакае Уладзіміра Бадрова?*

Па другой версіі, у бліжэйшы час Уладзімір Захаравіч атрымае новую пасаду. Па неафіцыйнай інфармацыі, Уладзіміру Захаравічу збіраюцца прапанаваць крэсла віцэ-прэм'ера.

**Марына КОКТЫШ.**

## Што там, на палетках?

Завершана **ўборка збожжавых і церабленне льну.** Сярэдняя ўраджайнасць зерневых склала каля 27 цэнтнераў з гектара.

**Працягваецца ўборка бульбы.** Плошчы, на якіх ужо выкапаны клубні, складаюць 13 працэнтаў. З кожнага гектара ў сярэднім накопваюць па 166 цэнтнераў.

**Азімыя** пасеяны на плошчах, якія складаюць менш за палову ад усіх запланаваных.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## Да нас едуць...

З 14 па 16 верасня ў Беларусі будзе знаходзіцца дэлегацыя Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ). У склад дэлегацыі ўвойдуць 10 парламентарыяў, якія прадстаўляюць усе пяць фракцый ПАСЕ.

Плануецца, што прадстаўнікі Парламенцкай асамблеі сустрэнуцца з лідэрамі шэрагу партый, прадстаўнікамі няўрадавых грамадскіх арганізацый, кіраўніцтвам абедзвюх палат Нацыянальнага сходу Беларусі, супрацоўнікамі МЗС і Міністэрства інфармацыі.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Пасла Беларусі ў Ізраілі адклікалі ў Мінск

Міністэрства замежных спраў краіны адклікала ў Мінск для кансультацый Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Ізраілі, а аказанне беларускім пасольствам у Тэль-Авіве консульскіх паслуг грамадзянам Ізраіля часова прыпынілі. Як заявіў 11 верасня на брыфінгу прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных, такія крокі ўрада краіны звязаны з закрыццём пасольства Ізраіля ў Мінску.

Пытанне ўзроўню далейшага дыпламатычнага прадстаўніцтва Беларусі ў Ізраілі і яго захавання будзе разглядацца дадаткова, паясніў А.Савіных.

Праз першасную неабходнасць консульскага абслугоўвання беларускіх грамадзян пасольства Беларусі ў Тэль-Авіве пакуль працягне сваю працу, заявіў прэс-сакратар.

Нагадаем, што пасольства Ізраіля ў Беларусі і яшчэ некалькіх краінах было закрыта, як заявіў афіцыйны Іерусалім, па фінансавых прычынах. 18 ліпеня пасольства Дзяржавы Ізраіль у Беларусі цалкам спыніла прыём наведвальнікаў і аказанне консульскіх паслуг.

**Андрэй СЕРАДА.**

# З будоўляй прыйдзе і прагрэс

*Сёння у выставачным цэнтры "Мінскэкспа" завяршаецца работа міжнароднай спецыялізаванай выставы "Будпрагрэс-2003". Самы буйны і прэстыжны будаўнічы форум у нашай краіне выклікаў у мінчан вялікую цікавасць.*

Такі ажыятаж крыху здзіўляе. "Будпрагрэс" — выстава спецыялізаваная. Асноўныя яе тэмы — будаўнічыя матэрыялы, тэхналогіі, канструкцыі, дызайн, інтэр'ер, еўрарамонт, сантэхніка, спецвопратка. Здавалася б, цікавыя яны толькі для прафесіяналаў.

У будаўнічым комплексе Беларусі працуе прыкладна чатыраста тысяч чалавек. Кожны жыхар краіны таксама нешта будуе ці рамантуе. Таму народу на выставе — не палічыць. Большасць "будаўнікоў" прыехала на іншамарках, прыпаркавацца каля "Мінскэкспа" амаль немагчыма. Дарослыя, моладзь, нават дзеці з шарыкамі ў руках хвалямі накатваліся на павільёны, дзе размясцілася экспазіцыя.

Большасць удзельнікаў выставы — беларускія фірмы і прадпрыемствы. Шмат кампаній у гэтым годзе прадставілі Польшча, Расія, Літва. Упершыню выставу наведаў буйны вытворца фарбаў з Турцыі — "ВЕТЕК". Сярод беларускіх удзельнікаў, як заўсёды, былі кампаніі "Трайпл", "Ветразь"," "Стройтэкс", "Мінскія вокны"...

Дарэчы, каля стэндаў, дзе дэманстраваліся новыя вокны, было заўсёды шматлюдна. Салідныя з выгляду мужчыны круціліся вакол экспанатаў, мацалі шкло, спрабавалі на трываласць пластыкавыя рамы. Напэўна, выбіралі для офіса або катэджа.

Большасць стэндаў былі запоўнены керамічнай пліткай, паркетам, клеямі, масцікамі, пэндзлікамі і валікамі. Даўганогія прыгажуні раздавалі ўсім жадаючым рэкламныя праспекты. На вуліцы ўвагу наведвальнікаў прыцягваў прапелер ветраной электрастанцыі.

На "Будпрагрэсе" можна было ўбачыць і шклошпалеры з Расіі, і пенашпалеры з Гомеля, і новыя дахавыя палімерныя матэрыялы ад ТАА "Белбытбуд". Інстытут "Будтэхнорм" правёў прэзентацыю новай камп'ютэрнай праграмы, якая прызначана для забеспячэння будаўнічай галіны нацыянальнымі і замежнымі нарматыўна-тэхнічнымі дакументамі. Паказалі і новую будаўнічую тэхніку, і новыя тэхналогіі.

Наведвальнікі панеслі з сабой кілаграмы рэкламных папер. Значыць, гэта ім патрэбна. Значыць, будуць будаваць. А з будоўляй прыйдзе і прагрэс.

**Мікола КАЗЛОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

**На здымках:** *дызайн дварыка; вятрак-электрастанцыя; жанчына прасвярліць і камень.*





**НЕЗЛОБИВЫЕ ЗАМЕТКИ**

# Что под ватником?

**Семен БУКЧИН**

Дожили! Наши пикейные жилеты вовсю обсуждают, будет ли поставлен памятник Лукашенке или благодарные потомки ограничатся только столичным проспектом его имени.

Молодой национал-патриотичный интернет-аналитик Кирилл Позняк (не икается ли его однофамильцу в Варшаве?) считает, что заслуги нынешнего президента в отстаивании суверенитета страны таковы, что через пятьдесят лет никто и помнить не будет, что закрывали какую-то "БДГ". Не говоря уже, разумеется, о каких-то там "исчезнувших" оппозиционерах...

Истинно европейски мыслящий титан белорусской политологии из Праги г-н Дракохруст примеривает на Лукашенку мундир маршала Франко и ставит его в один исторический ряд с великим князем Витовтом и Машеровым. Его коллега, давний и заслуженный борец с режимом из-за границы г-н Наумчик считает, что до памятника Машерову Лукашенко не дотягивает, потому что при первом секретаре ЦК КПБ книги известных белорусских писателей выходили "большими тиражами", а Владимира Короткевича представили даже к ордену. А в наши дни юбилейное фото Владимира Орлова было запрещено в "ЛіМе".

Улавливаете, читатель, разницу между Лукашенко и Машеровым? А близость его к каудильо и великому князю литовскому ощущаете? Не очень? Напрасно! Тут логика простая. Война с Москвой делает Лукашенку одновременно и Франко, и Витовтом, и Машеровым. Погодите! Еще немного времени, и, быть может, мы увидим нашего вождя на площади Независимости в окружении моря бело-красно-белых и красно-зеленых знамен, в маршальском мундире и с великокняжеской короной на голове. На белом коне, во главе сплотившихся в единое войско активистов БНФ, белорусских коммунистов и "славян" из "Памяти", "Славянского собора" и прочих "истинно русских людей" он пойдет походом на москалей.

То-то будет радости на нашей улице!

Такая вот реальная виртуальность... Или как там?

***

Всемирно известный писатель и выдающийся деятель европейского парламентаризма г-н Чергинец заявил в интервью газете "Свободные новости плюс": *"По некоторым параметрам Полоцк уже превзошел Париж. Это действительно так. И дал толчок развитию Полоцка, я считаю, президент".*

Вероятно, из присущего ему умения мыслить масштабно г-н Чергинец не захотел распространяться о том, что же это за "параметры". И теперь нам остается только гадать. То ли полоцкие музеи превосходят Лувр и Центр Помпиду? То ли Софийский собор затмил Нотр-Дам и Эйфелеву башню?

А может, полочане по уровню благосостояния обогнали парижан и сами того не замечают? А вот писательский глаз, да еще с милицейским опытом, он особый, видит такое, что не каждый подметит.

Ну и, разумеется, "толчок" Полоцку дал президент. А кто же еще? Он у нас все толкает. Поэтому хватит только России быть "родиной слонов"! Отныне и Полоцк выше Парижа! Я думаю, что в ближайшее время в Полоцк прибудет депутация парижской мэрии. Для изучения тамошних "параметров". А потом, глядишь, и сам Ширак пожалует. Мы и ему "некоторые параметры" подкрутим. Двести лет назад крикнули французы на весь мир: "Свобода, равенство, братство!" А с идеологией той же до сих пор не разобрались. На Монпарнасе кто хочешь сидит, гуляет, девицы разные... Опять же газеты дерзкие выходят. Пишут всякое про власть. А ведь это непорядок! Вот в Полоцке Монпарнаса нет. И газет неприличных нет. И все намного благопристойнее. Может, этот "параметр" также имел в виду автор бессмертного бестселлера "Финал Краба"?

И это действительно так.

***

Газета "Наша Ніва" решила взбодрить самочувствие читателей проверкой сексуальной потенции белорусов. Поскольку в политике и общественной жизни ничего путного не выходит, есть смысл залезть к соотечественнику под одеяло и удостовериться, способен ли он вообще на что-то. Правда, сама газета объясняет решение посвятить целый номер "сексу" тем, что "в Беларуси длится экономический подъем", а "такие времена — золотая пора для секс-индустрии".

Надо сказать, что мы как-то этого "экономического подъема" не заметили. Но "Нашай Ніве", вероятно, виднее. А может, это такая ирония — насчет подъема? Так или иначе, но несомненно с целью утвердить, что "есть секс в Беларуси!" на страницы газеты были призваны молодые и пожилые плейбои белорусского полусвета — от Сергея Чекереса до Змитера Бартосика, Владимира Некляева, и, разумеется, Адама Глобуса. Ну и исторический взгляд брошен: оказывается, и у деятелей БНР, и у заслуженных героев национального сопротивления 20—40-х годов минувшего столетия бывали "прорывы" на сексуальном фронте. Но в целом ситуация выглядит маловдохновляющей.

И вот, слава Богу, Глобус выяснил, в чем причина. Оказывается, "мы сильно зависим от памятников". А они у нас сплошь "антисексуальные"! Это у других народов сексапильный Давид и неутомимый Рамзес до сих пор возбуждают своих потомков. А у нас все те же унылые деды Талаши, которые с "калашами", хлопцы с гранатами, дядьки с автоматами. "Сымон-музыка" без смычка. Скрипка есть, девушка есть, а смычка нет. Ну и Купала бежит сломя голову от обнаженных русалок. А Богданович больше похож на ботаника, собирающего гербарий, чем на поэта, соблазнившего чужую жену. И все поголовно или в ватниках, или в шинелях, или в зимних пальто.

Вывод? Разденем наши памятники!

Только вот одна мысль точит: не было бы хуже. В смысле: есть ли там что, под этим самым ватником, кроме всем известной толерантности?

**СКАНДАЛ**

# Дачка Мулявіна прыняла бок Скаражонка

***Апошнім часам сітуацыя вакол "Песняроў" не толькі не выправілася, а, наадварот, стала горшай.***

Днямі на сустрэчы з журналістамі міністр культуры **Леанід Гуляка** выказаўся наконт будучыні "Песняроў".

*"Крызіс вырашыцца тады, калі будзе створаны цэнтр імя Мулявіна з запрашэннем у калектыў "молодой поросли",* — адзначыў Гуляка.— *Чаму прызначылі Скаражонка дырэктарам? 15 гадоў таму "Песняры" кармілі не толькі сябе, але і аплачвалі 80% дзейнасці філармоніі. Сёння "Песняры" на сябе зарабіць не могуць, і дзяржава кампенсуе іх дзейнасць. Яшчэ адна прэтэнзія: "Песняры" апошнім часам працавалі так: едуць на камерцыйныя гастролі куды хочуць, працуюць на кішэню і праядаюць дзяржаўныя грошы. Так не бывае ні ў адным калектыве. І не будзе!*

*Скаражонак будзе весці фінансава-гаспадарчую дзейнасць, а не творчую. Няма вопыту працы? У мяне таксама не было вопыту працы міністра — але мяне ўзялі і прызначылі. Са Скаражонкам заключаны кантракт на год, а далей будзем глядзець, як у яго атрымаецца."*

Бок Валерыя Скаражонка прыняла і **Марына Мулявіна**, дачка Уладзіміра Георгіевіча ад першага шлюбу. "Гэта мой выбар. Я веру ў Скаражонка", — сказала яна ў тэлефоннай гутарцы.

Выказаўся наконт, мякка кажучы, непрыгожай сітуацыі, саліст "Беларускіх песняроў" **Валерый Дайнека**. У інтэрв'ю Радыё "Свабода" ён сказаў:

*"Барткевіч ужо 20 год не спявае. Да таго ж у яго нешта з памяццю — ён адпрацаваў у ансамблі 8 год, я — 22... І не памятае, што быў такі Дайнека. Затое піша, што ў яго ёсць пагадненне з "Беларускімі песнярамі" наконт аб'яднання. Трызненне!.. З іншага боку, падтрыманы кімсьці зверху Скаражонак рвецца ў бойку. Да іх далучаецца Ухцінскі і Скорыкаў — яшчэ тыя "песняры", можаце сабе ўявіць? Пры чым тут "Песняры"? Насамрэч, усе хочуць гэта расцягнуць, скрасці: хто ўзмацняльнік, хто магнітафон, замяніць дакументы, дастаць дынамікі з калонак... Усім жа хочацца "халявы"!..*

*Могуць быць і трэція "Песняры", і чацвёртыя, і пятыя, але як імя дзяліць? Барткевіч падаў дакументы на рэгістрацыю — гэтага і трэба было чакаць. Мы таксама калісьці падавалі заяву. Але мы — людзі, да якіх прызвычаіліся. Пакаленне ведае нас 20—30 год. Людзям, якія ідуць на канцэрт, мала аднаго брэнда. Ім патрэбна гучанне і твары, з якімі яны разам раслі".*

*Мулявін, напэўна, не мог сабе і ўявіць, што пачнецца пасля яго смерці.*

Тым не менш, на думку многіх, сцэнарый далейшых падзей вакол "Песняроў" будзе разгортвацца згодна з рэаліямі сённяшняга часу: ёсць дзяржаўны загад — і кропка. Міністр культуры ўжо паведаміў, што загад аб звальненні Леаніда Барткевіча і іншых удзельнікаў "Песняроў" прызнаны несапраўдным. Валерый Скаражонак, які нават не мае музычнай адукацыі, абвясціў пра набор новага складу гурта. І адным з першых, хто атрымае запрашэнне, будзе пераможца сёлетняга "Славянскага базару" Максім Сапацькоў. Наўрад ці ўлічваецца пры гэтым меркаванне слухачоў, для якіх, напэўна, "Песняры" назаўсёды будуць асацыіравацца толькі з імем Уладзіміра Мулявіна. Ды і ўвогуле яны стаміліся ад усіх гэтых разборак...

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

### Афіцыйна

*Леанід Гуляка паведаміў, што ў рамках мерапрыемстваў па ўшанаванні памяці У.Мулявіна ўжо да канца года плануецца выпусціць серыю з больш чым 20 кампакт-дыскаў твораў артыста, а таксама зняць відэафільм, выдаць кнігу, падрыхтаваць мультымедыйнае выданне аб музыканце, стварыць у Беларускай дзяржаўнай філармоніі музей У.Мулявіна, назваць імем артыста вуліцу ў Мінску (тэрмін выканання — 1 студзеня 2005 года), устанавіць мемарыяльную дошку на доме, дзе жыў "пясняр". Паралельна вядуцца работы па стварэнні надмагільнага помніка. Акрамя таго, "падпісаны загад аб стварэнні Нацыянальнага цэнтра музычнага мастацтва "Песняры" імя Мулявіна". Стыпендыя імя У.Мулявіна ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры заснавана спецыяльным распараджэннем Савета міністраў і будзе выплачвацца ў адпаведнасці з дакументам.*

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

**СЛУЧАЙ**

## Фальшивую валюту вы можете получить и в отделении банка

Жительница города Пружаны — будем звать ее Марией Ивановной — была обескуражена, когда вернулась домой сразу же после посещения банка. Она обнаружила, что купюра достоинством в десять долларов США, которую ей любезно протянули в окошко кассы на сдачу, — чистейшей воды фальшивка.

Женщина не могла поверить своим глазам: как же так, в банке?! Она уже не один год была постоянной клиенткой АСБ "Беларусбанк"-122, и никогда раньше с ней не случалось там ничего подобного.

А между тем сомнений в том, что подделку вручили именно здесь, у нее не было и быть не могло, поскольку она не совершала никаких других валютных операций ни до, ни после этого злополучного обмена двадцати пяти из пятидесяти долларов США на белорусские рубли. Другой же валюты, кроме полученной на сдачу, у Марии Ивановны не имелось вообще — спутать было не с чем. Таким образом, пришлось признать факт: преступление совершила кассир 122-го отделения "Беларусбанка".

По прошествии некоторого времени Мария Ивановна зашла в то же самое отделение уплатить по счетам. Она узнала обманщицу и подошла к ней, не боясь привлечь лишнего внимания — в банке никого из посетителей не было. Мария Ивановна спокойно объяснила, в чем дело. Как и следовало ожидать, кассир стала отрицать, мол, не может такого быть. Попросила принести фальшивку.

— Она здесь, сказала женщина, осторожно протягивая купюру, — вот, возьмите.

Кассир внимательно осмотрела ее.

— Очевидно, что это подделка. Но я вам ее не давала, такого не могло быть, — сказала она с деланным безучастием, протягивая купюру женщине. Всем своим видом кассир явно давала знать, что она не понимает, чего от нее хотят.

Кассир, наверное, забыла, что, увидев фальшивые деньги, она сразу же должна была вызвать надлежащие правоохранительные органы и вместе с ними произвести задержание незадачливой клиентки с последующим учинением разбирательства по факту наличия незаконных денег. Она об этом забыла и потому ничего такого не сделала. Или она чего-то боялась?

В продолжение истории скажу лишь, что Мария Ивановна не стала предпринимать никаких других шагов в этом деле. Она рассудила, что количество потерянных денег не было столь значительным, чтобы из-за них ввязываться в разборки, исход которых мог разрешиться не в ее пользу. Возможно, и на эту рассудительность своей жертвы тоже рассчитывала мошенница.

**Ирина ГАВАКО.**



# Дык хто не злез з пальмы?

## альбо У Афрыцы журналісту працаваць лягчэй, чым у Беларусі

Эксперты з міжнароднай журналісцкай арганізацыі "Рэпарцёры без межаў" упершыню стварылі так званы індэкс свабоды прэсы, у які ўвайшлі 139 краін свету. Ствараўся рэйтынг шляхам апытання журналістаў з розных краін. Іх прасілі адказаць на шэраг пытанняў пра розныя факты парушэнняў свабоды прэсы, цэнзуры, ціску альбо дзяржаўнай манаполіі. Калі журналісты не маглі прадаставіць дакладнай інфармацыі, то краіна выключалася з удзелу ў праекце.

Першае месца ў спісе займае Фінляндыя — краіна, у якой, як лічаць прадстаўнікі міжнароднай журналісцкай арганізацыі, свабода слова набліжаецца да абсалюту. На другім месцы — Ісландыя, на трэцім — Нарвегія. Усе прызёры — прадстаўнікі паўночных еўрапейскіх краін.

Злучаныя Штаты, як ні дзіўна, занялі ўсяго толькі 17-е месца. А вось вынікі па некаторых еўрапейскіх краінах: Францыя — 11-е, Швейцарыя — 16-е, Вялікабрытанія — 22-е месцы.

Беларусь, як і чакалася, трапіла ў пазіцыю, якую цяжка назваць блізкай да прызавой. Толькі **124-е месца**! Ніжэй за нас "упалі" сярод вядомых нам назваў краін толькі Туркменістан, Бутан, М'янма, Кітай (перадапошняе месца) і Паўночная Карэя (апошняе).

Цікава ў гэтым святле ўзгадаць, як на нашым Першым нацыянальным канале раз-пораз мясцовыя тэлефантазёры кідаюць фразачкі накшталт — "у Беларусі ёсць усе магчымасці для развіцця свабоды слова" ці "ў Беларусі, як і ў іншых дэмакратычных дзяржавах...", і г.д. Цікава, якія "іншыя дэмакратычныя дзяржавы" маюць на ўвазе ідэёлагі з БТ? Мусіць, калі следаваць логіцы, — тыя, хто стаіць з намі побач у спісе, складзеным "Рэпарцёрамі без межаў"? А гэта Туркменістан, у якім нават месяцы перайменаваны ў гонар Туркмен-башы? Ці Паўночная Карэя, дзе людзі з галадухі ядуць траву? А можа, загадкавая М'янма, аб месцазнаходжанні якой на сусветнай карце ведаюць толькі выдатнікі па геаграфіі? Дарэчы, наша суседка Расія недалёка ад нас адарвалася — усяго 121-е месца.

Вывад, які зроблены "Рэпарцёрамі без межаў", — несуцяшальны. Пагроза свабодзе слова існуе ўсюды, незалежна ад геаграфічнага становішча краіны. Таму Італія, напрыклад, значна прайграла Кітаю, а Вялікабрытанія — краіне Коста-Рыка. Тым не менш, як адзначаюць стваральнікі індэкса, апошнія пяць радкоў займаюць азіяцкія дзяржавы, гэта сведчыць аб тым, што ў Азіі сітуацыя са свабодай слова найгоршая.

Дарэчы, вывады экспертаў супярэчаць яшчэ аднаму меркаванню пра тое, што ўзровень свабоды для СМІ супадае з багаццем краіны. Напрыклад, даволі бедная краіна Бенін была здольная заняць месца ў першай дваццатцы, побач са Злучанымі Штатамі.

І яшчэ адна цікавая акалічнасць: большасць афрыканскіх дзяржаў, якія былі ўключаны ў спіс "Рэпарцёраў без межаў", аказаліся значна вышэй за Беларусь. Выходзіць, што ў некаторых афрыканскіх краінах, якія традыцыйна лічацца прадстаўнікамі "трэцяга свету", ці, іншымі словамі, дзяржавамі з недаразвітай эканомікай, журналістам працаваць значна лягчэй, чым у еўрапейскай Беларусі.

Дык хто, у рэшце рэшт, не злез з пальмы?

**Алесь СІЛІЧ.**

